**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 20 (841) 19 траўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Фэст у гонар святога Андрэя Баболі, заступніка Беларусі ў Лучаі.**
**Адкрыццё сезону байкераў з асвячэннем матацыклаў.**
*Фота С. Вышыўкова.*















# Адкрыўся сезон палявання на казулю

**З 15 траўня, у адпаведнасці з Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адкрываецца сезон палявання на казулю.**

У гэты перыяд дазволена здабываць дарослых самцоў, а таксама селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту. Выкарыстоўваць можна наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўляў і гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, падрыхтаваных кулямі і карцечай, паляўнічыя лукі і арбалеты. Паляваць дазволена стрэльбавым спосабам з засады, з падыходу. Для таго каб паўдзельнічаць у такім паляванні паляўнічаму неабходна звярнуцца да арандатара паляўнічых угоддзяў пры ўмове, наяўнасці ў паляўнічага сапраўдных дакументаў на права палявання.

У выпадку калі паляўнічы ці грамадзянін, які не мае дазваленчых дакументаў на права палявання, вырашыцца на незаконную здабычу казулі, памер пакрыцця шкоды, паводле дзейсных таксаў за адну асобіну складзе 120 базавых велічынь, а таксама ўзбуджаецца крымінальная справа.

Глыбокская міжраённая інспекцыяаховыжывёльнага і расліннага свету зважае паляўнічых на неабходнасць выканання мер бяспекі пры абыходжанні з агнястрэльнай паляўнічай зброяй. Паляўнічая зброя павінна быць разраджаная пры:

- пераадоленні на паляванні розных перашкод, пераходам па кладках праз ручаі, рэкі;
- падыходзе да населенага пункта, месцу прывалу, збору;
- сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія здзяйсняюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

Гэта толькі малая частка тых мер бяспекі, якія павінны строга выконваць паляўнічыя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі не губляюць надзею на тое, што нашы паляўнічыя не парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

Аб усіх правапарушэннях, якія здзяйсняюцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон “гарачай лініі” 8-02156-**2-86-70** ці мабільныя тэлефоны: **897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78** (мтс).

***В.Е. Катовіч,*** *ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету..*











ISSN 2077-8023



Талачынскі раён

## Стаўка на элітныя клубні

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе няўстойлівае надвор'е сур'ёзна паўплывала на ход сяўбы і фактычна на паўмесяца прыпыніла ход палявых работ.**

Да працяглых зацяжных дажджоў паўсюдна ў Прыдзвінні тэмпы работ былі вышэй мінулагодніх, спецыялісты адзначалі і паляпшэнне культуры земляробства. Хваляваліся і на Талачынскім кансервавым заводзе за выбрыкі нябеснай канцылярыі, бо гэта прадпрыемства стала буйнейшым у вобласці вытворцам бульбы. Калі сёлета на Віцебшчыне калектыўныя гаспадаркі яе будуць вырошчваць на плошчы ўсяго 3200 гектараў, то на долю аднаго гэтага завода прыходзіцца львіная доля – 900 га. Аднак па ўзроўні эфектыўнасці вырошчвання “другога хлеба” цяпер завадчанам няма роўных ва ўсёй Беларусі. Толькі ў мінулым годзе мясцовыя завадчане накапалі звыш 48 тысяч тон клубняў, частка з якіх былі ранніх гатункаў і добра разышліся ўнутры краіны і за мяжой. Работнікі завода ўвогуле летась атрымалі найвышэйшую сярод беларусаў-бульбаводаў ураджайнасць – па 535 тысяч цэнтнераў з кожнага гектара. Прадпрыемства мае сучасныя бульбасховішчы і выйшла на еўрапейскія тэхналогіі вырошчвання бульбы, не мае праблем з яе збытам. Для пасадкі сёлета адабралі таксама самыя перспектыўныя і высокаўраджайныя тагункі клубняў – “рэд скарлет”, “вектар”, “брыз” і іншыя. Як толькі падсохла глеба, на падрыхтаваныя ўчасткі завадчане вывелі ў поле свае 9 бульбасаджалак і за некалькі дзён пасадзілі бульбу на 190 гектараў. Хутка была праведзена гэта праца на іншых участках. Тут спадзяюцца, што і сёлета стаўка на элітныя клубні сябе поўнасцю апраўдае.

Полацкі раён

## Ускружыла слава галаву?

■ Чэслаў Якубовіч.

**У паўсядзённым жыцці варта кожнаму памятаць, што ад прызнання, поспехаў і дабрабыту вельмі кароткі шлях да значных непрыемнасцей.**

Падобнае здарылася і з безумоўным лідарам на айчынным рынку па ўстаноўцы дамафонных сістэм і металічных дзвярэй – ААТ “Белсплат”. Гэта прадпрыемства з цэнтральным офісам у Навапалацку займела за крыху больш 10 гадоў дзейнасці 18 філіялаў па Беларусі і 200 кропак сервіснага абслугоўвання. Якіх толькі прэстыжных прэмій і ўзнагарод не атрымоўваў пераможца нацыяльнага конкурсу “Брэнд года”, а яго гендырэктар меў ганаровае званне “Лепшы кіраўнік года Віцебскай вобласці”. Аднак зараз супраць кіраўніка вядомай фірмы распачата крымінальная справа за наўмысныя дзеянні, якія яўна выхадзілі за межы службовых правоў і паўнамоцтваў. Як выявілі следчыя, кіраўніцтва “Белсплата” з лета 2014 года ігнаравала рашэнні абласнога Эканамічнага суда і нават Вярхоўнага суда Беларусі і па-ранейшаму ўстанаўлівала завышаныя тарыфы за паслугу па тэхнічным абслугоўванні сваіх устаноўленых дамафонаў. У выніку атрымалася, што 218 тысяч сем’яў элементарна пераплачвалі грошы за карыстанне ўстаноўленымі ў жылых дамах дамафоннымі сістэмамі. Генеральны дырэктар фірмы проста ігнараваў прадпісанні спецыялістаў абласной антыманапольнай і цэнавай службы зменшыць адчувальна завышаныя тарыфы, падпісваў незаконныя загады, за што матэрыяльна пацярпелі сотні тысяч людзей. Зараз, праўда, ён стаў ужо даваць паказанні аб прызнанні сваёй віны, а ААТ “Белсплат” пачало прымаць меры па кампенсацыі прычыненага людзям матэрыяльнага ўрону. У сувязі з гэтым кіраўніка не сталі арыштоўваць, аднак расследванне гэтай крымінальнай справы працягваецца.

Пастаўскі раён

## Верны сын сваёй зямлі

■ Кастусь Александровіч

**Нават пасля свайго адыходу ў вечнасць людзі працягваюць жыць столькі, колькі іх памятаюць нашчадкі.** У творцаў жа яшчэ больш падстаў назаўжды заставацца ў памяці суайчыннікаў, што і пацвердзілі днямі ўрачыстасці ў Пастаўскім раёне з нагоды 80-годдзя знакамітага земляка, пісьменніка і паэта Аркадзя Нафрановіча. Аўтар 9 кніг і паэтычных зборнікаў, 17 песень і рамансаў, а таксама гімна Пастаў не дажыў да свайго юбілею, летась у пачатку вясны спынілася сэрца літаратара. Аднак у ягоны юбілейны Дзень нараджэння ў мястэчку Камаі ўжо з раніцы ў мясцовым касцёле св. Яна Хрысціцеля адслужылі імшу яго памяці, хоць па веравызнанні Аркадзь быў праваслаўным. Затым на доме творцы ўрачыста адкрылі і асвяцілі мемарыяльную дошку. На ёй побач з партрэтам земляка выбіты ягоныя словы з аднаго з вершаў: “верным сынам, а не важным панам я сваёй зямлі старацца буду”. І гэта было, сапраўды, так, бо гэты адораны чалавек быў яшчэ і сапраўдным грамадзянінам. Ён сам жыў і іншых заклікаў, паказваў прыклад таго, як важна любіць родную Беларусь, ганарыцца яе мовай, культурай, няпростай гісторыяй. Аб гэтым шмат узгадвалі землякі і госці ўрачыстасцей у мясцовым Доме культуры. У перапоўненай зале прайшло літаратурна-мастацкае свята ў гонар паэта. Акрамя ўспамінаў пра неардынарнага чалавека-патрыёта Бацькаўшчыны, якому рэкамендацыі на ўступленне ў Саюз беларускіх пісьменнікаў далі Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, на вечарыне гучалі ягоныя вершы і асобныя песні, а таксама родныя беларускія мелодыі. Пры жыцці Аркадзь Іосіфавіч, дарэчы, цудоўна спяваў сам і яшчэ іграў на шэрагу музычных інструментаў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.05.16 | | | | Пятніца 20.05.16 | | | | Субота 21.05.16 | | | | Нядзеля 22.05.16 | | | | Пан. 23.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +12 | +16 | +13 | +8 | +14 | +18 | +15 | +12 | +13 | +17 | +16 | +10 | +14 | +19 | +15 | +9 | +16 | +20 |
| Ціск | 746 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 745 | 745 | 744 | 745 | 746 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 | 750 | 749 |
| Вецер м/сек | 2 С-З | 1 С | 2 С-З | 2 С | 4 С | 6 С | 7 С | 6 С | 6 С-З | 8 С-З | 7 С | 6 С-З | 4 С-З | 4 С-З | 6 С-З | 3 С | 3 С-З | 2 С | 3 С |
| Вільготнасць | 97 | 74 | 48 | 75 | 84 | 62 | 42 | 52 | 66 | 69 | 53 | 52 | 89 | 78 | 46 | 60 | 95 | 75 | 49 |

# Аб самым надзёным

## І ПРАДСТАЯЧЫ V УСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД, МАЛАВЕРАГОДНА, ШТО ПРЫМЕ РАШЭННЕ АБ ПРАВЯДЗЕННІ НАСПЕЎШЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ РЭФОРМ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Вось толькі спадзявацца нейкім чынам перачакаць гэты сістэмны ўжо крызіс у нас не атрымаецца, бо цудаў у эканоміцы не бывае, асабліва калі яна не перабудавана на сучасны лад.**

Яшчэ мінулай восенню, неўзабаве пасля заканчэння чарговых прэзідэнцкіх выбараў з прадказальным “элегантным пераможным” вынікам у Беларусі пайшлі размовы, што хутка ў нас адбудзецца новы Усебеларускі сход. Тады гэту падзею, нагадаем, першым анансаваў спікер верхняй палаты парламента М. Мясніковіч. А вось канкрэтную дату правядзення маштабнага і нетаннага форуму гэты адзін з важнейшых упраўленцаў дзяржавы, праўда, не назваў. Па задумцы арганізатараў гэтага мерапрыемства, яго называюць не інакш, як “вышэйшай формай народаўладдзя” нашай краіны, а скептыкі іранічна адзываюцца аб ім, як аб “Усебеларускім хурале”.

Між тым, ужо амаль два дзесяцігоддзі раз у 5 гадоў у сталіцу з’язджаюцца некалькі тысяч чалавек на так званае “народнае веча”, каб даць ацэнку зробленаму за пяцігодку і прыняць важнейшыя параметры далейшага развіцця. Самы першы такі сход прайшоў, як час ляціць, восенню далёкага 1996 года ў Палацы спорту і падтрымаў таксама значныя змены ў Канстытуцыі Беларусі, якія выносіліся тады на рэспубліканскі рэферэндум і значна ўмацавалі службовыя паўнамоцтвы першай асобы дзяржавы. Дасведчаныя людзі, такія як былы глава ўрада М. Чыгір і таксама ўдзельнік такіх сходаў акадэмік А. Вайтовіч сцвярджаюць, што ніякіх важных рашэнняў такія сходы не прымаюць, усё адбываецца па адпрацаваным сцэнарыі, а асобы з альтэрнатыўнымі меркаваннямі проста туды не дапускаюцца.

Ды і большасць прынятых разгорнутых пастаноў, як правіла, потым не выконваюцца. Вось і на гэты раз асабліва не будзе аб чым рапартаваць пра дасягненні, паколькі мінулая пяцігодка (2011-2015 гады) аказалася поўнасцю праваленай. На апошнім сходзе, да прыкладу, у пачатку снежня 2010 года шмат гаварылася, што давядзём сярэднія заробкі беларусаў да 1000 USD, а ў выніку маем толькі цяпер каля 300 долараў. Апошні “мазгавы штурм” 2,5 тысяч дэлегатаў IV Усебеларускага сходу па-сутнасці да нічога не прывёў, бо, да прыкладу, Беларусь не толькі не выйшла на еўрапейскія нормы будаўніцтва, увогуле гэта галіна ў крызісе, многія бударганізацыі развальваюцца.

Яшчэ больш далёка стала беларусам да еўрапейскіх жыццёвых стандартаў, паколькі нашы заробкі ў правінцыі сталі саступаць нават памерам пенсій палякаў, літоўцаў і латышоў. На тым форуме гучна абяцалася, што ўмовы пражывання ў малых пасёлках і гарадах стануць не горшыя, чым у Мінску. На справе, у правінцыі людзі толькі выжываюць, у калгасах грошы не плоцяць, многія малыя заводзікі не загружаны, прастойваюць. Але гэта не бянтэжыць беларускага лідара, які днямі ў Ельскім раёне выказаў упэўненасць, што прадстаячы ў пачатку чэрвеня Усебеларускі сход прыме рэалістычную праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016-2020 гады без элементаў маніляўшчыны.

Увогуле аптымізму А. Лукашэнкі можна толькі пазайздросціць, бо ён упэўнены: “В том, что мы можем прилично добавить, нет никаких сомнений. Залог этого – модернизация, которую мы провели. Мы больше всего говорим, что кризис, но забываем сказать, что сделано за это время. А сделано немало. И основываясь на этом, нам надо сделать значительный рывок”. На справе новая пяцігодка сёлета пачалася з рук вон дрэнна, нават расійскія даследчыкі ўпэўнены, што спад у Беларусі будзе працягвацца да канца 2016 года і толькі ў наступным магчымы невялікі анемічны рост.

Хутчэй усяго, на прадстаячым сходзе нам патлумачаць дрэнныя вынікі апошняй пяцігодкі неспрыяльнымі знешніміфактарамі:санкцыямі супраць Расіі, падзеннем цэн на нафту і ў асноўным сусветным крызісам, якога на самой справе нідзе няма, за выключэннем ваюючых паміж сабой РФ і Украіны. У мінулыя гады нашы краіна, сапраўды, шмат сродкаў укладвала ў сельскую гаспадарку, але патрабуемай аддачы да гэтага часу ад айчыннага АПК не атрымала. Праваленай аказалася і праграма мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі, цэментных заводаў, бо іх прадукцыя аказалася слаба запатрабаванай на знешніх рынках. Сітуацыя ў краіне няпростая, нават ураду Беларусі далі яшчэ 90 дзён, каб выйсці з эканамічнай стагнацыі, інакш прыгразілі кадравымі вывадамі.

Вось толькі спадзявацца нейкім чынам перачакаць гэты сістэмны ўжо крызіс у нас не атрымаецца, бо цудаў у эканоміцы не бывае, асабліва калі яна не перабудавана на сучасны лад. Аднабаковая арыентацыя на даволі адсталую тэхналагічна, пераважна сыравінную Расію таксама вылезла нам бокам, калі суседзяў паставілі на месца за імперскія замашкі. На жаль, у нашай дзяржавы зараз ужо няма ранейшых рэсурсаў, каб ажывіць поўнасцю дамініруючы дзяржсектар прамысловасці. Нідзе ў свеце планава-камандная эканоміка не даказала сваю эфектыўнасць, горкі цяперашні лёс беларускай індустрыі сёння гэта пацвярджае. З патрэбнымі рэформамі краіна спазнілася, праводзіць іх зараз будзе балюча і наўрад ці за гэта выкажуцца дэлегаты прадстаячага форуму ў беларускай сталіцы.

## Дзень за днём

**Расія абвінаваціла Беларусь у недаплатах за прыродны газ. На пачатак мая 167 арганізацый краіны мелі даўгі па зарплаце ў суме 81 млрд. рублёў. Буйнейшыя беларускія банкі імкліва губляюць свае даходы. У Мінску 22-23 чэрвеня пройдзе V Усебеларускі сход. Праз 5 гадоў жылы фонд беларусаў абсталююць індывідуальнымі лічыльнікамі цяпла. У Беларусі засталося толькі каля 9 тысяч жывых удзельнікаў II Сусветнай вайны. Апазіцыя не дамовілася пра адзіны спіс кандыдатаў на чарговыя парламенцкія выбары. З 2017 года абітурыенты будуць здаваць ЦТ па 4-х прадметах і выбіраць з іх тры найлепшыя.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Міністр абароны ЗША Э. Картэр пацвердзіў, што Пентагон размесціць свае 4 батальёны па тысячы ваенных кожны ў Прыбалтыцы і Польшчы ў адказ на пагрозы Расіі.

**ЗША.** Кандыдат у прэзідэнты Д. Трамп прыгразіў Пуціну, што ў пэўны момант ЗША будуць вымушаны збіваць расійскія самалёты пры іх збліжэнні з ваеннай тэхнікай краіны.

**Англія.** Спецслужбы праз 6 гадоў пошукаў выявілі, як карумпаваныя чыноўнікі Крамля кралі з дзяржбюджэту РФ і адмывалі праз 12 брытанскіх банкаў сотні млн. долараў.

**Венесуэла.** Апазіцыя сабрала 1,85 млн. подпісаў за правядзенне рэферэндуму па адстаўцы прэзідэнта-папуліста М. Мадуры, пры ім краіна перажывае цяжкі эканамічны крызіс.

**Украіна.** Міжнародная група расследаванняў Bellingcat выявіла дакладны нумар расійскай ракетнай сістэмы "Бук", якой летам 2014 года збілі над Данецкам самалёт "Боінг".

**Расія.** Міністр абароны С. Шайгу пацвердзіў, што для супрацьдзеяння НАТО РФ створыць яшчэ 3 новыя дывізіі ў Смаленскай, Варонежскай абласцях, ля Растова на Доне.

**Іспанія.** Упершыню ў гісторыі краіны кароль Філіп VI падпісаў указ аб роспуску абедзвюх палат іспанскага парламента і правядзенні 26 чэрвеня датэрміновых выбараў.

**Турцыя.** Урад краіны адмяніў візавы рэжым для грамадзян усіх 28 краін Шэнгенскай зоны, дырэктыва пачне дзейнічаць разам з адменай ЕС віз для турэцкіхграмадзян.

**Зімбабве.** Урад краіны папрасіў дапамогі ў сусветнай супольнасці выратаваць ад голаду звыш 4-х млн. чалавек насельніцтва, бяда прыйшла ад моцнай засухі і недахопу вады.

**ЗША.** Вучоныя біятэхналагічнай кампаніі Bioguark атрымалі дазволы на эксперыменты па ажыўленні памерлага мозгу ў 20 загінуўшых ад чэрапных траўм пацыентаў.

**КНДР.** Перад VII з'ездам ППК улады краіны ўвялі надзвычайныя меры бяспекі, абмежавалі ўезд у Пхеньян, забаранілі праводзіць вяселлі і пахаванні, закрылі граніцы.

**Украіна.** Баевікі "ДНР" прыгразілі арыштаваць беларускіх журналістаў В. Сямашку і Г. Іванову, калі іх праўдзівыя матэрыялы пра вайну там перадрукавалі шэраг украінскіх СМІ.

**Італія.** Вярхоўны суд краіны вырашыў не праследваць вельмі бедных людзей, калі яны з-за галечы ўкрадуць невялікую колькасць прадуктаў харчавання, каб не памерці з голаду.

**Канада.** З-за моцных лясных пажараў улады эвакуіравалі горад Форт Мак-Маррэй з насельніцтвам 80 тысяч чалавек пасля таго, як там пачалі ўзрывацца бензакалонкі.

**Іспанія.** Нацыянальная судовая калегія выдала міжнародныя ордэры на арышт шэраг грамадзян РФ, мафіёзных асоб, цесна звязаных з прэзідэнтам Расіі У. Пуціным.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Прафесар Б. Жэліба папярэдзіў, што сітуацыя ў краіне змрочная, бо за квартал запазычанасць па падатках і зборах у дзяржбюджэт краіны склала трыльён рублёў.

**Астравец.** Першы намеснік міністра энергетыкі Л. Шэнец пацвердзіў, што Беларусь пачала перамовы з Польшчай аб экспарце беларускай электраэнергіі.

**Жодзіна.** Аўтагігант БелАЗ затавараўся гатовай прадукцыяй, на складах без збыту ўжо 247 кар'ерных самазвалаў, што ў 8,3 разы болей сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці.

**Ляхавічы.** З-за пагрозы АЧС у раёне забаранілі насельніцтву трымаць свіней у трох вёсках і ў аграгарадку Востраў, летам 2013 года іх знішчылі поўнасцю ў радыусе 150 км ад чумы

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што ніякай ломкі ранейшых парадкаў правядзення выбараў у нас не будзе, з-за патрэбы ў заходніх грошах Захаду пусціць пыл у вочы.

**Баранавічы.** У буйным горадзе стратнымі сталі ўжо амаль 40 % прадпрыемстваў і арганізацый, за год сумы іх страт выраслі ў 4 разы, трывожная сітуацыя і на Брэстчыне.

**Смалявічы.** За грубае парушэнне працоўнай дысцыпліны А. Лукашэнка звольніў кіраўніка Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку "Вялікі Камень" са снежня 2014 г. А. Галя.

**Пінск.** Урад Беларусі надаў інвестпраекту па мадэрнізацыі "Пінскдрэва" статус важнейшага, ён атрымае дзяржаўную падтрымку для выпуска да 100 тысяч куб. фанеры.

**Магілёў.** Былы дырэктар "Магілёўсаюздруку" А. Чэчэра, абвінавачаны ў карупцыі, накіраваў у Генпракуратуру хадатайніцтва аб памілаванні на імя А. Лукашэнкі.

**Мінск.** Адразу 14 гандляроў спайсамі пакараў суд пазбаўленнем волі на тэрміны ад 10 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і аўто, сярод іх - і маладую 25-гадовую маці.

**Баранавічы.** Ля горада ў вёсцы Дзераўная агрэсіўны сабака пароды пітбуль моцна пакусаў 32-гадовую цяжарную жанчыну, дворніка ЖКГ, ёй давялося ампутаваць абедзве рукі.

**Ліда.** На трасе Мінск-Гродна ля з'езда ў горад п'яная кампанія на вялікай хуткасці ўрэзалася ў сустрэчны УАЗ з ваеннымі, ад удару 4 чалавекі атрымалі раненні.

**Зельва.** Ноччу злодзеі спілілі рашоткі з вокнаў царквы ў вёсцы Сынкавічы і скралі з цудатворнай іконы XV стагоддзя шматлікія дары прыхаджан, сам абраз не зачапілі.

**Пружаны.** З чацвёртай спробы на аўкцыёне прадалі за 11 тысяч USD былую шляхецкую сядзібу рода Дзеканоўскіх у вёсцы Каштанаўка з зямяльным участкам 0,7 гектара.

**Раўбічы.** Па запрашэнні главы КДБ В. Вакульчыка былы генменеджар ХК "Дынама" (Мінск) У. Беражкоў пасля арышту стаў працаваць у Беларускім клубе біятлона.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Дэкрэтны адпачынак для бацькоў у Беларусі плануюць зрабіць абавязковым



■ FINANCE.TUT.BY

**Пытанне абувядзенні ў Беларусі абавязковага дэкрэтнага водпуску для бацькоў будзе прапрацоўвацца спецыялістамі. Пра гэта, як паведамляе БЕЛТА, распавяла намеснік начальніка аддзела народанасельніцтва, гендэрнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Марына Арцёменка.**

Зараз, нагадаем, па законе адпачынак па доглядзе за дзіцем можа аформіць не толькі мама, але і бацька, а таксама іншыя блізкія члены сям'і. Галоўная ўмова - наяўнасць працоўнага месца ў таго, хто хоча сядзець дома з малым.

Як распавяла Марына Арцёменка, у мінулым годзе такой магчымасцю скарысталіся 3 тысячы 97 мужчын (сярод іх не толькі бацькі, але і дзядулі). Праўда, усяго ў дэкрэтным адпачынку было 302 тысячы 360 чалавек.

«Атрымліваецца, толькі 1% мужчын карыстаецца прадстаўленай заканадаўствам магчымасцю водпуску па доглядзе за дзіцем», – сказала прадстаўнік Мінпрацы і сацабароны.

Паводле яе слоў, падпраграмай «Сям'я і дзяцінства» дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь» на 2016-2020 гады прадугледжана ў 2016-2017 гадах прапрацаваць пытанне аб мэтазгоднасці ўстанаўлення абавязковага сацыяльнага водпуску для бацькоў пры нараджэнні дзіцяці. Акрамя таго намеснік начальніка ўпраўлення таксама паведаміла, што ў Мінпрацы і сацабароны ўжо пачалі паступаць дэпутацкія запыты з нагоды ўвядзення абавязковага бацькоўскага водпуску.

Разам з тым, у сусветнай практыцы ёсць станоўчыя прыклады прымянення бацькоўскага дэкрэтнага адпачынку. Так, у Швецыі гэтай магчымасцю карыстаюцца 75% мужчын. Праўда, трэба ўлічваць, што там памер дапамогі ў дэкрэтным прывязаны да зарплаты бацькоў, а не да сярэдняй зарплаты па краіне, як у нас. Паколькі па статыстыцы ў Беларусі жанчыны зарабляюць на чвэрць менш, чым мужчыны, пытанне пра тое, каму сядзець дома, вырашаецца само сабой.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Для якаснай і аператыўнай касьбы траў першым укосам глава вобласці М. Шарснёў даручыў паўсюдна ў раёнах стварыць межгаспадарчыя атрады з не меней 3 КЗС.

**Новалукомль.** Мясцовы завод "Этон" увайшоў у лік 133 арганізацый, даўжнікоў па зарплаце, сітуацыя на Віцебшчыне – найгоршая ў Беларусі, бо на Брэстчыне няма даўгоў.

**Віцебск.** Суд Чыгуначнага раёна пазбавіў п'янага палкоўніка міліцыі С. Сарокіна правоў на 5 гадоў, даў 25 мільёнаў рублёў штрафу, яго таксама звольняць з органаў правапарадку.

**Орша.** На працягу чатырох дзён у горадзе праходзіў Vміжнародны эканамічны форум і 6-я Рэспубліканская ўніверсальная выставакірмаш "Аршанскія традыцыі".

**Бешанковічы.** У аграгарадку Ула адкрылі аддзяленне дзённага знаходжання для пажылых людзей і маладых інвалідаў з пакоямі для гуртка, спартыўнай залай.

**Полацк.** У лясных масівах раёна прайшлі сумесныя тактыка-спецыяльныя вучэнні ўнутраных войск МУС, сіл спецаперацый па вышуку, затрыманні ўзброеных злачынцаў.

**Браслаў.** На вуліцы Кастрычніка будфірма з Віцебска разам з мясцовай ПМК-42 пачалі ўзводзіць яшчэ адзін 60-кватэрны жылы дом з долевым удзелам забудоўшчыкаў.

**Віцебск.** У тэхналагічнага ўніверсітэта з'явіўся новы рэктар прафесар, доктар тэхнічных навук Андрэй Кузняцоў, які працаваў у гэтай ВНУ загадчыкам кафедры аўтаматызацыі.

**Орша.** На падпітку 26-гадовая маці дваіх дзяцей напала з лапатай на судовых выканаўцаў, суд пакараў хуліганку 1,5 гадамі абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову.

**Шаркаўшчына.** Былы дырэктар Глыбоцкай СПМК-26 Валерый Казлоўскі прызначаны намеснікам старшыні Шаркоўшчынскага райвыканкама па будаўніцтве і ЖКГ.

**Віцебск.** На праспекце Фрунзе пачалі актыўна ўзводзіць 11-павярховы інтэрнат для студэнтаў медуніверсітэта з 500 пакояў блочнага тыпу, яго павінны здаць сёлета восенню.

**Докшыцы.** Педагог дадатковай адукацыі цэнтра дзяцей і моладзі з вышэйшай будаўнічай адукацыяй А. Гапанёнак пабудаваў унікальны жылы дом з блокаў прэсаванай саломы.

**Мёры.** У раённым гісторыка-этнаграфічным музеі адкрылі выставу "Духоўная спадчына Міёршчыны" культавых рэчаў, ікон, рэдкіх кніг з 22 храмаў, якія дзейнічаюць у раёне.

**Паставы.** У мястэчку Камаі на доме, дзе жыў пісьменнік і паэт Аркадзь Нафрановіч, урачыста адкрылі мемарыяльную дошку, у СДК прайшлі літаратурнае свята і канцэрт.

**Глыбокае.** Упершыню ў гісторыі мясцовага спорту каманда ФК "Глыбокае" стала чэмпіёнам Віцебскай вобласці па міні-футболе, Віталя Стоціка прызналі лепшым іграком.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# На дыванах звычайна малявалі карціны рая

**Традыцыйнае мастацтва маляваных дываноў Віцебскага Паазер'я занесена ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў нашай краіны, які створаны пры фінансавай і кансультатыўнай падтрымцы ЮНЭСКА. Маляванкі – від народнага мастацтва, родапачынальнікам якога лічыцца Язэп Драздовіч. Традыцыя распісваць дываны асабліва была распаўсюджана ў 1920-я гады ў Глыбоцкім, Шаркоўшчынскім, Пастаўскім, Докшыцкім раёнах. У гэтых рэгіёнах склаўся характэрны мастацкі стыль, кампазіцыйныя схемы. На дыванах звычайна малявалі карціны рая, якім яго бачыў народны мастак, родныя пейзажы, па краях наносілі раслінны арнамент. Маляванкамі ўпрыгожвалі вясковыя хаты.**

■ **Уладзімір Скрабатун,** *тэкст і фота.*

Калі маляваныя дываны занесеныя ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў нашага краю, гэта значыць паўночна-заходняй часткі Беларусі, то лагічна задаць пытанне: чаму ў нас іх ніхто не збірае і ў нас няма адпаведнага музея? Тым больш, калі прысутнічае фінансавая падтрымка ЮНЕСКА!

Вядома, што значная колькасць маляваных дываноў захоўваецца ў зборах Заслаўскага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Аднак, дываны-маляванкі не з'яўляюцца культурнай з'явай гэтага рэгіёна. Адно радуе – Заслаўе, усё ж, Беларусь! Бо ёсць прыклады, калі навуковыя экспедыцыі з Расіі гойсаюць па раёнах Гомельшчыны і скупляюць у бабулек за бясцэнак вышываныя ручнікі, а потым яны з'яўляюцца ў экспазіцыях этнаграфічных музеяў расійскіх гарадоў, ужо як культурна-гістарычны здабытак рускага, а не беларускага народа.

Як падаецца аўтару гэтых радкоў, наша Культура павінная мець свой грашовы фонд, каб мясцовыя бабулькі былі зацікаўленыя прыносіць творы мастацтва ў мясцовы музей ці ў музей, які, гіпатэтычна, мусіць быць для гэтага створаны. Каб не неслі заезджым перакупшчыкам за бясцэнак, а здавалі б у мясцовы музей за грашовую ўзнагароду. Бясплатна ўжо ніхто нічога не прынясе! Капіталізм!

Да гэтага ліку я б аднёс і мясцовых калекцыянераў, якія займаюцца скупкай старадаўніх рарытэтаў. Гэта значыць, каб і яны былі зацікаўленыя знайсці і прадаць менавіта мясцоваму музею, каб засталося ў нас, а не сплыло, хаця б і ў тую Расію, дзе ўжо пападуць, на нейкай выставе, як твор рускага народнага мастацтва.

Сярод тых, хто займаўся роспісам дываноў-маляванак, быў не толькі Язэп Драздовіч. Найбольш вядомы яго паслядоўнік – Фёдар Сухавіла, які паходзіў з в. Крывічы. Ён з дзяцінства знаходзіўся ў гушчы народнага творчага працэсу. У школьныя гады шмат маляваў, яму пашчасціла назіраць за творчай дзейнасцю Язэпа Драздовіча ў станковым жывапісу і роспісу дываноў, і гэта спрыяла выбару будучага рамяства.

За ўвесь перыяд творчай дзейнасці, які неаднаразова перарываўся на доўгія гады, Фёдар Сухавіла стварыў больш за 100 размаляваных дываноў і куфраў, велікодных яек і іншых прадметаў — такарных, сталярных і бандарных прадметаў. У іх наглядна праявіліся высокія выканальніцкія і эстэтычныя ўласцівасці.

Маляваныя дываны мастак заўсёды будаваў па ўстояным кампазіцыйным прынцыпе: у цэнтры палатна – камбінаваны букет кветак у дэкаратыўнай вазе, па перыметры дывана — арнаментальнае абрамленне са стылізаванымі элементамі расліннага характару. Аўтар выкарыстоўваў для сваіх твораў чорны фон і дамагаўся асаблівай гучнасці колеру за кошт кантрасту светлага і цёмнага.



На прадстаўленым здымку – дыван-маляванка, які часта вывешвае ля рынка "Верас" калекцыянер Віктар. Выяву гэтай маляванкі аўтар знайшоў і на інтэрнэт-аўкцыёне. Прадаецца! Меркавана – работа Фёдара Сухавілы.

Натуральна, яшчэ не факт, што гэта работа Ф.Сухавілы, бо няма асноўнага прыкметнага элементу – *"у цэнтры палатна – камбінаваны букет кветак у дэкаратыўнай вазе"*. Між тым, могуць быць і выключэнні! Але, адназначна, такому экспанату – месца на радзіме ў гіпатэтычным, пакуль, музеі глыбоцкіх дываноў-маляванак! Нагадаю, калі хто забыўся, на пачатак артыкула – ***"маляваныя дываны Віцебскага Паазер'я занесеныя ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў нашай краіны, якія створаны пры фінансавай і кансультатыўнай падтрымцы ЮНЭСКА".***

## У дні апошніх званкоў і выпускных не будуць прадаваць алкаголь

Традыцыйна ў дні правядзення апошніх званкоў у школах і выпускных вечароў рэалізацыя алкаголю станецца пад забаронай. У прыватнасці, у Мінскай вобласці па ініцыятыве міліцыі было прынята пра абмежаванне продажаў гарачыльных напояў ва ўсіх аб'ектах гандлю 30 траўня, 11 і 12 чэрвеня 2016 года.

Ва УУС Мінскага аблвыканкама растлумачылі, што рашэнне было прынята для недапушчэння НЗ пры правядзенні мерапрыемстваў у школах. Пад узмоцненым кантролем праваахоўнікаў станецца ў першую чаргу месца адпачынку, куды выпускнікі прыбудуць пасля ўрачыстай часткі.

Летась пры правядзенні выпускных міліцыянеры затрымалі 20 непаўналетніх за здзяйсненне адміністрацыйных правапарушэнняў, па большай частцы за ўжыванне алкаголю і знаходжанне ўначы ў грамадскіх месцах без суправаджэння дарослымі. Некалькі прадаўцоў прыцягнулі да адказнасці за незахаванне абмежавання на продаж алкаголю.

***telegraf.by***

## Ордэнам Маці ў бягучым годзе ўзнагароджаны 140 жыхарак Беларусі

**У Беларусі ордэнам Маці ў бягучым годзе ўзнагароджаны 140 жанчын, якія нарадзілі і дастойна выхавалі пяцёра і больш дзяцей, паведамілі карэспандэнту БелТА ў аддзеле дзяржаўных узнагарод галоўнага ўпраўлення кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта.**

Усяго гэтай узнагароды ўдастоены 8 тыс. 253 шматдзетныя маці з усіх рэгіёнаў Беларусі, у тым ліку 358 - у 2015 годзе. Як паведамлялася БЕЛТА, гэты высокі знак мацярынскай доблесці заснаваны Указам Прэзідэнта Беларусі ў 1995 годзе. У адпаведнасці з указам з 2006 года шматдзетным маці, узнагароджаным ордэнам Маці, праводзіцца аднаразовая грашовая выплата ў памеры пяцікратнага бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Выплаты ажыццяўляюцца са сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Акрамя таго, у рэгіёнах Беларусі рашэннем мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў устаноўлены розныя дадатковыя формы заахвочвання для ўзнагароджаных гэтым ордэнам. З верасня 2012 года ўстанаўліваецца пенсія за асаблівыя заслугі жанчынам, якія нарадзілі і выхавалі 9 і больш дзяцей і ўзнагароджаным адной з такіх дзяржаўных узнагарод СССР або Рэспублікі Беларусь, як ордэн Маці, медаль "Медаль мацярынства", ордэн "Мацярынская слава", ордэн "Маці-гераіня".



***БелТА.***

## Траціна прадпрыемстваў Беларусі ў першым квартале былі нерэнтабельнымі

**У першым квартале 2016 года 2.400 арганізацый Беларусі з'яўляліся нерэнтабельнымі. У агульнай колькасці прадпрыемстваў, улічваемых афіцыйнай статыстыкай, частка нерэнтабельных суб'ектаў гаспадарання склала ў студзені-сакавіку 31,3%.**

У параўнанні з першым кварталам 2015 года колькасць нерэнтабельных прадпрыемстваў павялічылася на 359.

З 7.661 суб'екта гаспадарання, улічваемых афіцыйнай статыстыкай, нізкую рэнтабельнасць (ад 0 да 5%) мелі 2.450 арганізацый. Такім чынам, на частку нерэнтабельных і нізкарэнтабельных суб'ектаў гаспадарання ў першым квартале прыйшлося больш за 63% прадпрыемстваў.

Яшчэ 29,6% юрасоб у першым квартале мелі рэнтабельнасць продажаў ад 5 да 10% (1.193 арганізацыі) і ад 10 да 20% (1.076). Рэнтабельнасць продажаў звыш 20% у першым квартале была характэрна толькі для меней чым 10% суб'ектаў гаспадарання.

Варта адзначыць, што нават вытворчыя прадпрыемствы, якія маюць дадатную рэнтабельнасць, у шэрагу выпадкаў па выніках справаздачнага перыяду атрымалі чыстую страту.

Так, чыстая страта прадпрыемстваў Мінпрама ў першым квартале склала 4,8 трлн. рублёў і павялічылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў шэсць разоў. Сярэдняя рэнтабельнасць продажаў прадпрыемстваў Мінпрама склала ў першым квартале 3,3% (у студзені-сакавіку 2015-га — 3,6%).

Паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, за першы квартал 2016 года чыстая страта стратных прадпрыемстваў склала 17 трлн рублёў і павялічылася ў параўнанні са студзенем-сакавіком мінулага года амаль у два разы.

Стратнымі па выніках студзеня-сакавіка з'яўляліся 2.138 арганізацый, іх колькасць за апошні год павялічылася на 37,7%. Значны рост колькасці стратных арганізацый адбыўся ва ўсіх абласцях краіны.

***ННВ.***

## Да «Славянскага базара ў Віцебску» цэнтр культуры закупіць сучасную мікрафонавую сістэму коштам 1,3 мільярда рублёў

**Гарадскі цэнтр культуры «Віцебск» абвясціў тэндар на закуп камплекта бесправоднай лічбавай мікрафонавай сістэмы арыентыровачным коштам 1 300 000 000 рублёў.**

Паводле дакументацыі тэндара, камплект павінен уключаць 4 лічбавых прыёмнікі сістэмы ULX-D, 16 ручных бесправодных мікрафонавых перадатчыкаў пад мікрафонавыя капсулі двух відаў, 12 мікрафонавых капсуляў двух відаў, 6 бесправодных мікрафонавых перадатчыкаў, 4 галаўных вакальных мікрафоны і шэраг іншых неабходных аксэсуараў.

Закуп фінансуецца з мясцовага бюджэту, арыентыровачны яе кошт складае 1 300 000 000 рублёў. Пастаўкі абсталяванне павінны да 9 ліпеня.

Нагадаем, што першыя канцэрты, паводле праграмы XXV Міжнароднага фэсту мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», пачнуцца ўжо 12 ліпеня. Завершыцца канцэртная праграма форуму 20 ліпеня сольнікам Дыяны Арбенінай і групы «Начныя снайперы».

***Сяржук Серабро.***

# Дзісна на чарговым вітку выпрабаванняў

**У 1959 годзе Дзісненскі раён быў скасаваны, яго тэрыторыя перададзена ў склад Мёрскага раёна, а горад Дзісна стаў горадам раённага падпарадкавання.**



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Да злучэння з абласнога і рэспубліканскага бюджэтаў на добраўпарадкаванне Дзісны выдзяляліся пэўныя сумы грошай. Хоць яны былі і не вельмі значнымі, якія патрабаваліся, але ніхто не мог наклаці на іх лапу і выкарыстаць у іншых мэтах. Нават тыя грошы, якія зараблялі дзісненскія прадпрыемствы, ішлі ў раённы бюджэт, а там ужо на разгляд раённых улад нейкая сума выдзялялася Дзісне. Сумы з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў выдзяляліся на раён. А раённыя ўлады ўжо на свой погляд, прытрымліваючыся прынцыпу: роднай дачцэ і падчарцы, выдзялялі дробныя крохі для Дзісны. Быў і яшчэ адзін спосаб, а дакладней, гэты ж прынцып дзяліць паміж раёнамі тавара-матэрыяльныя каштоўнасці: шыфер, цэмент, шкло, мэблю і г.д. Мне даводзілася як дэпутату гарсавета прысутнічаць на снежаньскіх сесіях гарсавета, калі нас абвінавачвалі ў "нерасторопности" засваення бюджэту, і так названыя "незасвоеныя" сумы забіралі ў раённы бюджэт. А як іх засвоіць, калі тавара-матэрыяльных каштоўнасцяў дадуць на суму ў два разы меншую, чым грошы ў бюджэт? А за наяўны разлік у магазіне нічога браць нельга.

Таму Мёры раслі як грыбы пры цёплым надвор'і і пасля дажджу і за 50 год з закінутай і бруднай вёскі (у 1957 годзе атрымалі статус гарадскога пасёлка, 15 студзеня 1972 года – горада) выраслі ў цудоўны гарадрайцэнтр.

Пачаўся працэс закрыцця прадпрыемстваў у Дзісне і перанос іх функцыянальных абавязкаў у Мёры. У 1971 годзе ў Мёрах пабудавалі і адкрылі хлебазавод, таму ў Дзісне закрылі хлебапякарню. Людзі згубілі рабочыя месцы. Сямейныя заставаліся працаваць у Дзісне, каму пашанцавала. Хтосьці - у прыгарадных калгасах "Іскра" і "1-е Мая". Моладзь знайшла месца ў Наваполацку і іншых гарадах.

Не паспелі пабудаваць у Мёрах мясакамбінат, як у Дзісне закрылі каўбасны цэх. Карціна тая ж. Адток моладзі, ды і не толькі моладзі, у Наваполацк. Закрылі малаказавод. Памяшканне перадалі плодагародніннаму заводу пад цукерачны цэх. Цукерачны цэх прапрацаваў некалькі год, аказаўся нерэнтабельным, і яго закрылі. Рабочыя пайшлі па пратоптанай сцяжынцы. Горад губляў моладзь.

Вытворчае памяшканне былога малаказавода, якое засталося без гаспадара, стала трухнець. Прыязджалі невядомыя марадзёры з інструментамі, выразалі сістэму ацяплення, здымалі дах. Чаны і ёмістасці з медзі і нержавейкі зніклі адразу пасля закрыцця. Знайшліся прадпрымальнікі, якія жадалі выкупіць памяшканне і адкрыць вытворчасць па разліву пітной вады, дык заламілі такі кошт, што працей пабудаваць новае збудаванне, чым выкупіць і капітальна адрамантаваць гэта. Паклаў вока новы прадпрымальнік з Падмаскоўя - не прадалі. У 2014 годзе прыгналі экскаватар, бульдозер, вырылі вялізны катлаван, спіхнулі туды сцены і пахавалі. Прыгажосць! Загубілі гістарычную каштоўнасць, на што патрацілі кругленькую суму. Вось так пачынаюць выміраць гарады.

Яшчэ ў 1957 годзе Леках хацеў прыстасаваць памяшканне бальніцы на 100 ложкамесцаў пад прадпрыемства. Будынак, які мае прыгожы архітэктурны выгляд, двухпавярховыя, капітальныя падвалы пад усім будынкам. Зараз здзіўляемся, чаму не ўзнавіць гэты будынак нават пад бальніцу, у немцаў у час вайны тут быў шпіталь для раненых афіцэраў. Чаму ў Дзісне не магла б быць бальніца на 100 ложкамесцаў. Мясцовасць прыгожая, паветра чыстае, побач Дзвіна. Дык не. Не паспеў горад стаць горадам раённага падпарадкавання, стаў нікому не патрэбны. Па прычыне безгаспадарчасці адзін з прыгажэйшых будынкаў ужо больш чым паўразрушаны жыхарамі.

Па вуліцы цяперашняй імя Кірава знаходзіўся будынак XIX стагоддзя паштовай станцыі. У двары яшчэ былі канюшні. Гэта ж жывая гісторыя горада! Калі неабходнасць у станцыі адпала, будынак адкупіў багаты купец габрэй Канмановіч пад жыллё. У 1939 годзе размясціўся райвыканкам, у 1944 – таксама райвыканкам. У 1954 годзе прыстасавалі пад спальны корпус школы-інтэрната. Пасля закрыцця школы-інтэрната аддалі пладовагародніннаму заводу пад інтэрнат. Пакуль збіраліся засяляць, дзеці на гарышчы развялі вогнішча, будынак згарэў. Прынялі "разумнае" рашэнне – будынак знесці, на яго месцы зрабіць сквер. Аб тым, што на гэтым месцы стаяў будынак, які меў гістарычную каштоўнасць, напамінае пустэча.

Такі ж лёс цаглянага, аднапавярховага будынка XIX стагоддзя былой пошты.

А чым жа ашчаслівілі Дзісну за час яе знаходжання ў складзе Мёрскага раёна? Пабудавалі паліклініку, дзякуючы таму, што былы старшыня аблвыканкама Кулакоў, каб дзісненцы дружна аддалі за яго свае галасы на выбарах у Вярхоўны Савет БССР, паспрыяў таму, што з нейкага раёна будаўніцтва паліклінікі перакінулі ў Дзісну.

Пабудавалі 18-кватэрны жылы дом, дзякуючы таму, што старшыня гарсавета Кадушка В.Т. паехаў у Мінск у міністэрства і выбіў гэты дом. Раён і тут аказаўся на "вышыні": 2 кватэры з 18 засялілі жыхарамі з Мёр, хоць у Мёрах кожны год будавалі сотні кватэр.

Пабудавалі спальны корпус для школы-інтэрната і будынак ашчадбанка. Не так даўно закончылі будаўніцтва 9-кватэрнага дома, які засялілі жыхарамі з вёскі Асцевічы.

Закрыццё аб'ектаў прадаўжаецца і па сённяшні дзень. Закрылі плодагароднінны завод, які працаваў у 2 змены, на мясцовай сыравіне. Прадукцыя мела попыт па ўсёй Еўрапейскай частцы СССР. Закрылі цэх па перапрацоўцы драўніны ў Дзісненскім лягасе, які быў абсталяваны навейшай тэхнікай, якая дазваляла выконваць заказы на экспарт і атрымоўваць валюту. Нарэшце, знішчылі камбінат будаўнічых матэрыялаў, пабудаваны ў 1945-47гг Лекахам. Спачатку зачынялі асобныя цэхі, а потым цалкам усё прадпрыемствы. Па той жа прычыне і схеме знішчылі камбінат бытавога абслугоўвання. Горад пазбавіўся соцень працоўных месцаў.

Дзісненская бальніца ў свой час мела тэрапеўтычнае, дзіцячае, радзільнае, хірургічнае і іншыя аддзяленні. Зараз толькі стала бальніцай сястрынскага догляду.

Але саме галоўнае – людзі. У час пасляваеннага развіцця насельніцтва выходзіла за 3000 чалавек, а зараз каля 1700, прычым не менш трэці складаюць пенсіянеры. Калі раней у сярэдняй школе было пад 400 вучняў, у васьмігадовай 180 вучняў, то зараз у школе 196 вучняў. А гэта яўная прыкмета таго, што горад вымірае.




**Пры ўездзе ў горад гасцей сустракае такі банэр. Мала таго, што яго абтрапаў вецер, дык і для беларускай мовы тут месца не знайшлося. І па-англійску трэба пісаць Dzisna.** *Фота Зм. Лупача.*



**Мост праз Дзісну. Ён стаіць на быках (апорах), пабудаваных яшчэ ў царскі час.** *Фота Зм. Лупача.*



**Руіны дзісенскай бальніцы і зараз уражваюць – велічны быў будынак. Хацелі аднавіць пасля вайны, не паспелі, бо Дзісна згубіла статус райцэнтра.** *Фота Зм. Лупача.*

# Выбірай! Курэнне або здароўе!



**Цыгарэты гадзіна за гадзінай, дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам паступова руйнуюць здароўе бясклапотных курцоў.**

■ **Д. Шыльчонак,** *фельчар-валеолаг Глыбоцкага РЦГЭ*

У цыгарэтах утрымліваецца нікацін – “наркотык”, які выклікае прывыканне. Нікацін – гэта моцны раслінны яд. Яго смяротная доза 80-120 мг (больш за 2-х пачкаў цыгарэт у дзень). Нават пры скурванні адной пачкі цыгарэт за кароткі час можа наступіць цяжкае атручэнне і нават смерць.

Акрамя нікаціну, у цыгарэтным дыме змяшчаецца мноства іншых шкодных хімічных рэчываў, многія з іх проста яды.

### Небяспечныя наступствы курэння для арганізма

**Курэнне і праца мозгу:** курэнне тытуню ў тры разы павялічвае рызыку развіцця вострых парушэнняў мазгавога кровазвароту (інфаркту мозгу, унутрымазгавога кровазліцця).

**Сардэчна-сасудзістыя захворванні:** дастаўка кіслароду да сардэчнай мышцы рэзка парушаецца з-за блакавання гемаглабіну крыві вокісам вугляроду з тытунёвага дыму. Гэта прыводзіць да сур’ёзных паражэнняў сэрца і сасудаў.

**Лёгачныя захворванні:** вялікая колькасць хімічных рэчываў трапляе ў кроў чалавека праз лёгкія. Цыгарэтны дым, уступаючы ў непасрэдны кантакт з лёгкімі, значна павялічвае рызыку захворвання на пнеўманію, эмфізэму, хранічны бранхіт і іншыя лёгачныя захворванні.

**Захворванні страўніка:** адмоўным эфектам працяглага курэння з’яўляецца развіццё ў чалавека розных хранічных захворванняў страўніка, аж да развіцця язвавай хваробы.

**Парушэння працы залоз унутранай сакрэцыі:** (гіпофізу, шчытападобнай залозы, наднырачнікаў), прыводзяць да змены абмену рэчываў і зніжэння адаптацыйных магчымасцяў чалавека.

**Курэнне і рак:** акрамя рака лёгкіх, ужыванне тытуню прыводзіць да раку поласці рота, глоткі, гартані, стрававода, страўніка, падстраўнікавай залозы, печані, нырак, мачаточніка, мачавога пузыра, шыйкі маткі.

**Курэнне і цяжарнасць:** нікацін згубна дзейнічае не толькі на фізічны, але і на псіхічны стан будучага дзіцяці. Для дзяцей тых маці, якія кураць, ужо ў раннім узросце характэрныя няўважлівасць, імпульсіўнасць, звышактыўнасць, адставанне ў фізічным і разумовым развіцці.

У жанчын, якія кураць, вышэй верагоднасць таго, што цяжарнасць можа скончыцца заўчаснымі родамі, выкідам ці мёртванароджаным.

**Падумайце, навошта вам гэта трэба!**

Бо жыццё поўнае разнастайнасці і больш прыемных задавальненняў, якія не прыносяць шкоды для здароўя.

Калі не курыце – не пачынайце! Калі курыце – кіньце проста сёння!




# Будзьце асцярожнымі на вадзе!

**На тэрыторыі раёна пачало ўсталёўвацца цёплае надвор’е, жыхары і госці нашага горада ў вольны час выязджаюць за горад, каб адпачыць, аднавіць сілы на ўлонні прыроды.**

■ **Аляксандр Гігола,** *начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

Часта, знаходзячыся на адпачынку, яны забываюць аб мерах бяспекі на вадзе, што прыводзіць да трагічных наступстваў, разводзяць вогнішчы ў пажаранебяспечных месцах, займаюцца незаконнай высечкай лесу і лоўляй рыбы, што пераўтварае іх у правапарушальнікаў. У сувязі з гэтым хацелася б растлумачыць наступнае: зоны адпачынку, лясныя масівы, лужкі, берагі рэк, азёр, пляжы і г.д., з’яўляюцца грамадскімі месцамі падчас адпачынку грамадзян. Найбольш часта фіксаваныя ў месцах масавага адпачынку грамадзян правапарушэнні: распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з’яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап’янення (арт.17.3 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь) цягне накладанне штрафу ў памеры да 8 базавых велічынь, у выпадку паўторнага ўчынення на працягу года – ад двух да пятнаццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт; распальванне вогнішчаў у забароненых месцах (арт. 15.58 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь) – штраф у памеры да 12 базавых велічынь; забруджванне лесу і іншай дравесна-хмызняковай расліннасці грамадзянамі (арт. 15.30 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь) – штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

Згодна з распараджэннем Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №77Р ад 14 красавіка 2016 года вызначаны наступныя месцы масавага адпачынку грамадзян – зоны адпачынку на азёрах Мушкат, Белае, у горадзе Глыбокае, пл. Цэнтральная, пл. 17 верасня, Парк Перамогі, а таксама рашэннем Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №378 ад 9 красавіка 2014 года забаронена купанне грамадзян на вадаёмах, размешчаных у межах горада Глыбокае, на сажалках, затоках, кар’ерах і іншых водных аб’ектах, размешчаных на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, акрамя вызначаных месцаў масавага адпачынку грамадзян.

У 2015 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў вадзе загінула 79 чалавек, з іх 6 непаўналетніх. Асноўнымі прычынамі гібелі людзей на водах з’яўляюцца – купанне ў вадаёмах, не прызначаных для гэтых мэтаў, купанне ў нецвярозым стане, бескантрольнасць з боку бацькоў прыводзіць да страты іх дзяцей. Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, страты блізкіх Вам людзей і дзяцей паспрабуйце выконваць наступныя правілы і меры бяспекі на водах:

■ небяспечна купацца ў нецвярозым стане, у забароненых і неўстаноўленых для гэтага месцах, выходзіць у плаванне на няспраўнай або неабсталяванай выратавальнымі сродкамі лодцы, сядзець на яе бартах, перасаджвацца з месца на месца або з адной лодкі ў іншую падчас руху;

■ тым, хто не ўмее плаваць, нельга карыстацца лодкамі, надзіманымі сродкамі, іншымі прадметамі, якія не абсталяваны адмысловымі прыстасаваннямі для плавання;

■ нельга купацца ў адзіночку, у цёмны час сутак, пры моцных хвалях;

■ не скачыце ў ваду ў месцах з невядомай глыбінёй і рэльефам дна;

■ не заплывайце далёка ад берага, разлічвайце свае сілы;

■ не пакідайце дзяцей ля вадаёмаў без нагляду.

■ не скачыце ў ваду з дамбаў, прыстаняў, катэраў, лодак;

■ не падавайце лжывыя сігналы бедства;

■ не выкарыстоўвайце для плавання дошкі, бярвенні, надзіманыя матрацы, камеры аўтамашын і іншыя дапаможныя сродкі.

***

**Захаванне названых правілаў уратуе Ваша жыццё і жыццё Вашых блізкіх.**

### МНС інфармуе
**на 16. 05.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 275;
Гібель людзей – 39, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 9;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.



